*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 26 (1125)** **26 ЧЭРВЕНЯ 2013 г.**

## Купалле ў Беларусі



21-23 чэрвеня беларусы святкавалі першае Купалле. Будуць святкаваць яшчэ і другое каля 6-7 ліпеня. Такая ў нас краіна і такі народ, што язычаскае свята Купалле святкуюць і па каталіцкім, і па праваслаўным календары. І нікому гэта не замінае.

Беларускія этнографы не вельмі хочуць прызнаваць гэтае першае Купалле і хітра называюць яго Сонцазваротам.

Сонцазварот - гэта старажытная славянская назва сонцастаяння, якая адпавядала моманту "павароту" Сонца на прырост ці на спад дня. На Беларусі і ў шматлікіх еўрапейскіх краінах дзень зімовага сонцастаяння адзначаўся як язычніцкае свята нараджэння сонца. А Купалле ў старажытнасці лічылася святам сонца і было прымеркавана да дня летняга сонцастаяння. Таму астранамічна Купалле трэба святкаваць менавіта ў 20-х днях чэрвеня, што паспяхова рабілася і робіцца, асабліва ў Заходняй Беларусі і асабліва ў вёсках з перавагай каталіцкага насельніцтва, дзе дакладна ведаюць, што "сёння Купала, а заўтра Ян". Ян жа - 24 чэрвеня, пра што ксёндз нагадаць ніколі не забудзецца.

Адпылалі першыя Купальскія вогнішчы на Берасцейшчыне, Гарадзеншчыне, пад Менскам, пад Ракавам, пад Гомелем, у замежжы (у Іркуцку святкавалі Купалле ў ноч з 22 на 23 чэрвеня), паплылі купальскія вянкі па Нёмане, Дзітве, Бузе і Сожы. І няхай сабе этнографы пішуць у сваіх кніжках толькі пра 6-7 ліпеня, народ пацяху рухаецца за Сонцам і пачынае святкаваць Купалле 23 чэрвеня ці каля таго, як гэта робіць Прыбалтыка ды і беларусы ў Еўропе. А прыдзе ліпень і ўся астатняя Беларусь адсвяткуе другое Купалле, і зноў весела, радасна і светла. І ніхто нікому не замінае пасвяткаваць два разы, не работу ж рабіць.







*Яраслаў Грынкевіч.*

ISSN 2073-7033



## 130 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Цвікевіча

Аляксандр Іванавіч Цвікевіч (псеўд. А. Гвоздзь, А. Галынец) (22 чэрвеня 1883 г., Берасце - 30 снежня 1937 г., Менск) - беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, юрыст, філосаф, публіцыст.

Нарадзіўся ў Берасці ў сям'і фельчара чыгуначнай бальніцы. Скончыў юрыдычны факультэт Пецярбуржскага ўніверсітэта (1912), да 1914 г. працаваў прысяжным паверараным у Пружанах і Берасці. Пасля пачатку Першай сусветнай вайны - у бежанстве ў Туле, дзе прымаў актыўны ўдзел у працы камітэта дапамогі ахвярам вайны. У 1917 г. у Маскве стаў адным з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай народнай грамады.

Удзельнічаў у працы Першага Усебеларускага з'езду, быў абраны сакратаром прэзідыума, ад бежанцаў-беларусаў уваходзіў у склад Рады з'езду. У студзені 1918 г. Выканкам І Усебеларускага з'езда накіраваў Аляксандра Цвікевіча разам з Сымонам Рак-Міхайлоўскім на мірныя перамовы ў Берасце. Не атрымаўшы дазволу ўдзельнічаць у перамовах асобнай дэлегацыяй, Цвікевіч і Рак-Міхайлоўскі вымушаны былі ўвайсці ў дэлегацыю УНР у якасці дарадцаў.

У канцы сакавіка 1918 г. быў накіраваны ў Кіеў у складзе надзвычайнай дыпламатычнай місіі. 29 траўня 1918 г. беларуская місія звярнулася да расійскай мірнай дэлегацыі і падала яе кіраўніку Х. Ракоўскаму ноту, падпісаную Цвікевічам і М. Доўнар-Запольскім, гаворачы аб патрэбе прызнання расійскім савецкім урадам незалежнасці Беларусі.

Вясной 1919 г. урад БНР накіроўвае Цвікевіча ў Берлін, дзе ён павінен быў вырашыць фінансавае пытанне - атрымаць па акрэдытыве ўкраінскую пазыку.

З 1921 па 1923 г. Цвікевіч займаў пасаду міністра замежных спраў ва ўрадзе БНР Вацлава Ластоўскага. Быў старшынём І Усебеларускай канферэнцыі ў Празе, якая адбывалася ў верасні 1921 г. У 1922 г. Цвікевіч разам з В. Ластоўскім зрабілі спробу ўключэння беларускага пытання ў парадак дня Генуэзскай канферэнцыі.

У 1923 г., у сувязі з нязгодай часткі беларускіх грамадскіх і палітычных дзеячоў з палітыкай ураду БНР В. Ластоўскага быў сфармаваны новы ўрад БНР на чале з Аляксандрам Цвікевічам. На Другой Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне ў 1925 г. пад уздзеяннем поспехаў і дасягненняў палітыкі беларусізацыі ў БССР Аляксандр Цвікевіч прыняў рашэнне аб спыненні дзейнасці Рады міністраў БНР і прызнанні Менска адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. У лістападзе 1925 Цвікевіч з сям'ёй пераехаў у Мінск.



Пасля пераезду ў БССР працаваў у Наркамаце фінансаў, потым - вучоным сакратаром у Інбелкульце. З 1929 г. працаваў у Інстытуце гісторыі Беларускай Акадэміі навук.

4 ліпеня 1930 г. быў арыштаваны, абвінавачаны па справе "Саюза вызвалення Беларусі". 10 красавіка 1931 г. асуджаны на 5 гадоў ссылкі. Адбываў яе ў Пярмі, Ішыме, потым у Сарапуле (Удмуртыя). Паўторна арыштаваны 17 снежня 1937 г. 30 снежня 1937 г. Аляксандр Цвікевіч быў расстраляны ў Менску.

Рэабілітаваны па першым прыгаворы 10 чэрвеня 1988 г., па другім - 31 траўня 1989 г.

***Вікіпедыя.***

## Калі ёсць грамадства, ёсць беларускасць

Нядаўна ў СМІ прайшла інфармацыя пра рэгістрацыю на цэнтралізаванае тэставанне. Толькі 33564 ўдзельнікі цэнтралізаванага тэставання абралі беларускую мову, а на расейскую мову зарэгістраваліся 83829 чалавек. Беларускую мову такім чынам абралі 28,59%.

Аднак сітуацыя ў рэгіёнах некалькі іншая. Так у Лідзе на беларускую мову зарэгістраваліся 1268 чалавек, а на рускую - 1100 чалавек. Гэта значыць, што на беларускую мову зарэгістравалася 53,55%.

У Лідзе тэставанне праходзяць дзеці з Лідскага і прылеглых раёнаў (Воранаўскага, Іўеўскага, часткова Дзятлаўскага і Шчучынскага). Найбольш слабое звяно ў плане беларускасці - безумоўна 100-тысячная Ліда, дзе ўсе 16 школ рускамоўныя ды плюс горад Бярозаўка. Выдзеліць з дадзеных тэставання Лідскі раён праблематычна, але ёсць звесткі пра здачу выпускных экзаменаў.

Усяго выпускнікоў у Лідскім раёне сёлета 838 чалавек. З іх беларускую мову ў якасці асноўнага экзамена выбралі 395 чалавек, што склала 47,14%. Аднак яшчэ 195 чалавек выбралі беларускую мову ў якасці экзамену па выбару. Такім чынам, усяго беларускую мову здавалі 590 чалавек, што складае 70,41%. Да слова ў якасці экзамену па выбару рускую мову абралі толькі 98 чалавек. Усяго рускую мову на Лідчыне здавала на 49 чалавек менш, чым беларускую. Такім чынам, Лідскі раён сітуацыю моцна пагоршыць не мог.

Летась на тэставанне па беларускай мове ў Лідзе прыйшло 59% удзельнікаў. Сёлета адбылося падзенне на 5,5 %. Паводле ацэнкі старшыні Камітэта народнага кантролю па Лідскім раёне спадара Клімовіча, гэта - правал. Усе чакалі лепшых паказчыкаў. Спадар Клімовіч акрэсліў і прычыны. На яго думку некаторыя дзеці спужаліся новай беларускай арфаграфіі, ну а падзенне колькасць беларускамоўных класаў - з'ява агульнавядомая.

Аднак тое, што прадстаўнікі лідскіх уладаў лічаць гэтыя - 5,5% правалам, якраз і ўсяляе пэўную надзею на паляпшэнне сітуацыі. Грамадства на Лідчыне і ў прылеглых раёнах здаровае, цалкам вярнуць пазіцыі беларускай мовы тут зусім рэальна. Кропка незвароту яшчэ не пройдзена.

***Наш кар.***

# ВЫРАЗ "ДУШОЙ ЗАГАВЕЦЬ" І ЯГО СІНОНІМЫ

Уласна беларускі фразеалагізм ***душой загавець*** абазначае 'перастаць жыць; памерці'; напрыклад, у паэме Я. Купалы "На папасе" Незнаёмы кажа: "Але не суджана было мне душой без часу загавець".

Слова ***загавець***, апрача свайго асноўнага значэння 'паесці скаромніны апошні раз перад постам', у беларускіх гаворках ужываецца з іншымі значэннямі; да прыкладу, у "Матэрыялах для слоўніка мінска-маладзечанскіх гаворак" (1974): *загавець* - 'захварэць'. Або ў адным з твораў Р. Мурашкі: "Я не хачу загавець жыццём чорт ведама за што". Тут ужо сэнс дзеяслова *загавець* іншы: 'загінуць'. Такое ж устарэлае ці дыялектнае значэнне і ў дзеяслоўным кампаненце фразеалагізма *душой загавець*. Яно выяўляецца пры супастаўленні гэтага выразу з дыялектным антанімічным *душой адгавець* - 'жыць, ажыць'. Параўнаем у слоўніку У. Даля: *гавець* - 'жыць, быць'. "Магчыма, словы *загавець, адгавець* ад таго кораня, што і *жыць, гаіцца* (*загаіцца*)" (Ф. Янкоўскі). Як бачым, сэнсавым цэнтрам фразеалагізма *душой загавець* першапачаткова выступаў дзеяслоў *загавець*.

Гэты выраз уступае у сінанімічныя адносіны яшчэ амаль з 35 іншымі, апісанымі ў "Слоўніку фразеалагізмаў" (2008). Спачатку пералічым толькі тыя, у якіх назоўнікавыя кампаненты - *душа, дух* (у розных склонавых і лікавых формах): *аддаць богу душу, аддаць духі, дух выпусціць, духу не ўказаць, дух спусціць*. Душу або дух, паводле рэлігійных уяўленняў, як бессмяротны нематэрыяльны пачатак мае толькі чалавек, які, паміраючы, нібыта аддае яе Богу. Параўнаем у апавяданнях-успамінах У. Дубоўкі "Плёсткі": "Як яго прасілі, як яго малілі, не ўзяў ні кроплі вады, ні крошачкі хлеба. На шостыя суткі Якуб аддаў богу сваю душу. Але, як растлумачыў манькаўскі поп: "Бог душу старога Якуба не прыняў ні ў рай, ні ў пекла не накіраваў, бо, паводле царкоўнага закону, ён - самагубца".

У многіх фразеалагізмах адлюстравана супрацьпастаўленне кароткачасовага, зямнога жыцця і вечнага, нябеснага. Смерць для старажытнага чалавека "азначала і пачатак новага, лепшага жыцця, якое цягнецца вечна" (А. Біроў). Як вынік такіх уяўленняў *склаліся фразеалагізмы: адыходзіць з гэтага свету, адыходзіць на той свет, адыходзіць у іншы свет, адыходзіць у лепшы свет, адпраўляцца на той свет, адыходзіць у вечнасць*.

Сюды ж варта дадаць і яшчэ два: *адправіцца да Абрама на піва, трапіць да Абрама на піва*. У вершы К. Крапівы "Вось такія дактары вымуць душу без пары" гаворыцца, як аднойчы шарлатан даў дзядзьку Янку шклянку самаробных лекаў. "Выпіў Янка - й фур за браму: зразу к прааўцу Абраму ў нябеснае ён царства, - надта добрае лякарства!" І тут, і ў згаданых фразеалагізмах адзін і той жа Абрам - біблейскі персанаж. Ён быў вельмі адданы Богу, у чым апошні пераканаўся, загадаўшы яму праз анёла ахвяраваць родным сынам. За пакорлівасць і адданасць Бог узяў Абрама пасля смерці ў нябеснае царства. *Трапіць да Абрама* - першапачаткова "трапіць на той свет, туды, дзе знаходзіцца Абрам". А *на піва* - дасціпны жартоўны дадатак, які (паводле М.А. Даніловіча) каламбурна накладае на імя біблейскага персанажа іншае, тоеснае, пашыранае ў мінулыя стагоддзі сярод яўрэйскага насельніцтва Польшчы і Беларусі імя Абрам (як гаспадар карчмы, куды заходзілі і "на піва").

У нашай мове, як і ў іншых, ёсць фразеалагізм *мафусаілаў век* ('вельмі доўгае жыццё, даўгалецце'), што паходзіць з біблейскага тэксту (Быццё, 5, 12) пра патрыярха Мафусаіла, які пражыў нібыта 969 гадоў, а таксама выраз *арэдавы вякі* (з біблейскага аповеду пра патрыярха Іарэда, які жыў 962 гады). Але наўрад ці хто верыць у сапраўднасць такіх звестак. Людзі глядзяць на смерць як немінучы фінал чалавечага жыцця, як на натуральны працэс спынення жыццядзейнасці арганізма. Пра няўмольнасць і непазбежнасць смерці кожнага чалавека кажа і беларуская прыказка *Каб не мерлі, дык неба б падперлі*.

Але на паняцце "памерці (паміраць)" у народнай свядомасці як бы накладзена табу. Прафесар Б.А. Ларын пісаў, што "яшчэ на стадыі першабытных забабонаў, з прычыны табу, пачынаюць развівацца найстаражытнейшыя эўфемізмы, дазволеныя і прыстойныя найменні, па прыродзе сваёй перыфрастычныя альбо вобразныя". Таму для абазначэння паняцця "памерці" выкарыстоўваліся разнастайныя "памякчаныя аналагі", эўфемізмы. У адных выпадках, як ужо было паказана вышэй, ідэя смерці выказваецца праз эўфемістычныя выразы з перамяшчэннем душы, пераходам з гэтага (зямнога) свету ў той (замагільны) свет.

У іншых выпадках складваліся метанімічныя альбо метафарычныя спалучэнні, навеяныя паралелямі з рэаліямі пахавальнага абраду, з матывам сну, са шлюбам і г.д.: *лажыцца ў магілу, пайсці ў магілу, зграбнуць рукі, складваць рукі, заснуць вечным сном, заснуць навекі, ажаніцца з сырой зямлёй, замуж за <пана> Пясоцкага* (збірацца). Апошні выраз - каламбурнага характару: тут кампанент *Пясоцкага* склаўся па мадэлі ўтварэння прозвішчаў - ад *пясок* у значэнні 'зямля, якой закопваюць магілу'. Са значэннем 'паміраць' ужываецца і выраз *на паповы сані* (збірацца). У ім захаваўся адгалосак даўнейшых эпох. Як сведчаць старажытныя пісьмовыя помнікі Кіеўскай дзяржавы, у даўнія часы быў звычай адвозіць нябожчыка да месца пахавання на санях у любую пару года. Абрадам пахавання кіраваў поп ("поповы поющие обычные песни"). "У гуцулаў да нашага часу захаваўся звычай адвозіць труну з нябожчыкам на могілкі на санях" (Ф. Янкоўскі).

Агульны для сучасных усходнеславянскіх моў выраз *даць дуба* ('памерці') у XIX ст., як лічылі У. Даль і А. Праабражэнскі, ужываўся толькі ў паўднёвых раёнах (тэрыторыя сучаснай Украіны). Узнікненне выразу можна звязваць з даўнім славянскім пахавальным абрадам. Існавала павер'е, што прыстанкам душы пасля смерці чалавека становіцца дрэва. Пры пахаванні перавагу аддавалі дубу. Дубовыя помнікі накшталт лодкі "сустракаюцца да гэтага часу на Заходнім Палессі і суседняй з ім Паўночнай Валыншчыне" (М.І. Талстой).

Некаторыя фразеалагізмы з'яўляюцца, кажучы словамі В.У. Вінаградава, "метафарамі, узятымі з жывёльнага свету": *выпрастаць ногі, выцягнуць ногі, задзіраць капыты, задзіраць ногі, адкідваць капыты, адкідваць хвост*. Гэтыя грубаватыя выразы, часам з адценнем пагардлівасці пры ўжыванні ў дачыненні да нялюбага чалавека, склаліся па аналогіі, на аснове падабенства з жывёламі, якія перад смерцю, у апошнія секунды жыцця, выпростваюць, выцягваюць ногі.

Асобныя выразы са значэннем 'памерці' маюць цьмяны, незразумелы вобраз, пакладзены ў іх аснову. Так, у творах С. Дзяргая, У. Караткевіча, В. Коўтун і некаторых іншых аўтараў мае месца ўстарэлы выраз *пачыць у бозе* - запазычанне з царкоўнаславянскай мовы. *"У бозе"* - старая форма меснага склону адзіночнага ліку ад слова "бог" з заменай заднеязычнага "г" свісцячым "з". Не ўсведамляецца першапачатковая вобразнасць фразеалагізмаў *канькі адкідаць, з капылоў далоў*. *Загадаць доўга жыць* (каму) успрымаецца як бы не выказанае нябожчыкам пажаданне доўга жыць усім астатнім; напрыклад, у С. Баранавых: "Ехалі куды вочы глядзяць. Па дарозе бацькі загадалі дзецям доўга жыць". Дарэчы, гэты фразеалагізм, як і 10 іншых з прааналізаванай групы, - мнагазначны, ужываецца яшчэ і пры дзейніку са значэннем неадушаўлёнага прадмета, да прыкладу: *Машына загадала доўга жыць* (П. Глебка); *У 1991 годзе Савецкі Саюз загадаў доўга жыць* (І. Мельнікаў).

Фразеалагізм *аддаць канцы* мае тры значэнні: 1) адвязаць канаты, трос або ланцуг, калі карабель адыходзіць ад прычала у плаванне; 2) уцячы; 3) памерці. Трэцяе значэнне склалася не на аснове сэнсавай сувязі з марскім тэрмінам (яе няма), а ў выніку каламбурнага выкарыстання двух значэнняў слова канцы ('канаты' і 'смерць'), падмены значэння 'канаты' значэннем 'смерць' (параўнаем, напрыклад, у Р. Мурашкі: "От толькі не пусці, дык канцы табе будуць!"). У гэтым пераасэнсаванні, відаць, адбілася традыцыйная ацэнка мора як пастаяннай небяспекі для жыцця: *Хто на моры не плаваў, той бяды не ведаў; Чакай гора з мора, бяды ад вады; Хараша мора - з берага*.

*Сыходзіць (сысці) са сцэны* - калька з англійскай мовы (*quit the stage*). Ужываецца з чатырма значэннямі: 1) перастаць выконваца (пра п'есу, драму і пад.); 2) траціць сваё значэнне, пераставаць адыгрываць ранейшую ролю; 3) адыходзіць ад якой-небудзь дзейнасці; 4) пераставаць жыць, паміраць. Выраз у яго першым значэнні ўтвораны шляхам пераасэнсавання свабоднага словазлучэння, характэрнага для маўлення акцёраў. Іншыя значэнні склаліся ў выніку паўторнай (паралельнай) метафарызацыі зыходнага словазлучэння.

У разгледжаным тут сінанімічным радзе (а ён, як упаміналася, складаецца з 36 адзінак) можна вызначыць і дамінанту, г.зн. стрыжнёвы, апорны, найбольш ужывальны фразеалагізм, які мае шырокую кантэкстуальную спалучальнасць і, што асабліва важна, здольны без страты для сэнсу замяняць любы іншы фразеалагізм у сваім сінанімічным радзе, "тады як адваротнай замены можа і не быць" (У.П. Жукаў). *Аддаваць (аддаць) богу душу* - дамінанта дадзенага сінанімічнага рада з агульным значэннем 'паміраць (памерці)'. Дзеяслоўны кампанент гэтага фразеалагізма ўжываецца як у закончаным трыванні (часцей), так і ў незакончаным. У некаторых жа іншых сінанімічных фразеалагізмах дзеяслоўны кампанент застыў у форме закончанага трывання: *ажаніцца з сырой зямлёй, выпрастаць ногі, загавець душой, загадаць доўга жыць, заснуць вечным сном, заснуць навекі, зграбнуць рукі, пайсці ў магілу, пачыць у бозе, трапіць да Абрама на піва*. Асобныя выразы гэтага рада адрозніваюцца сэнсавымі адценнямі; да прыкладу, *духу не ўказаць* растлумачаны ў "Слоўніку фразеалагізмаў" як 'тут жа, адразу памерці' (і гэта пацвярджаецца адпаведным ілюстрацыйным матэрыялам). У такіх выпадках "адваротнай замены" ўжо зрабіць нельга.

Варта яшчэ дадаць, што ад двух выразаў дзеяслоўнага тыпу ўтварыліся ўнутрыфразеалагічным спосабам субадносныя з імі назоўнікавыя выразы: *адыход у іншы свет* (каго,чый), *адыход у лепшы свет* (каго, чый).

***Іван Лепешаў.***

## Віталь Радзівонаў:

## *Спорт можа стаць пляцоўкай для рэкламы беларускай мовы*



Віталь Радзівонаў - адзін з нешматлікіх беларускіх спартсменаў, які мае актыўную грамадскую пазіцыю. Нядаўна ён першы адгукнуўся на прапанову маладога рэжысёра зняцца ў сацыяльным ролiку "Футбол - гэта…". І вырашыў паралельна з папулярызацыяй футболу зрабіць рэкламу беларускай мовы.

***Еўрарадыё:*** *Ці шмат Вы ведаеце неабыякавых спартсменаў, якія клапоцяцца пра мову?*

**Віталь Радзівонаў:** У спартовым асяродку часта сустракаю погляды ў падтрымку роднага слова. Не толькі сярод футбалістаў. Калі ўдаецца пабачыцца на нейкіх мерапрыемствах з вядучымі спартсменамі, то чую такія меркаванні. З Сашай Герасіменяй, напрыклад, мы перасякаліся на акцыях і мерапрыемствах. Гэта абсалютна нармальная пазіцыя грамадзяніна сваёй краіны. Тут няма чаго абмяркоўваць. Ёсць такія людзі і ў нашай камандзе.

***Еўрарадыё:*** *У БАТЭ Вас называюць Прафесарам. Цікава, якая ў Вас адукацыя?*

**Віталь Радзівонаў:** Скончыў універсітэт фізічнай культуры. А ў гэтым годзе атрымаў дыплом эканамічнага ўніверсітэта. Тут, дарэчы, навучаліся Аляксандра Герасіменя, Даша Домрачава.

***Еўрарадыё:*** *Ці вучылі Вы ў школе беларускую мову? Бо часта здараецца так, што людзі ў дзіцячым узросце не надаюць гэтаму пытанню ўвагі. А ў сталым пачынаюць разумець актуальнасць.*

**Віталь Радзівонаў:** Я быў такім самым хлопцам. Ну, малады, адным словам. Натуральна, я нешта чытаў - вершы, творы. Заклаў у школьныя гады пэўную базу. Але, што тут казаць, у паўсядзённым жыцці мова сустракаецца не так часта. Яна існуе на дадзены момант, каб моладзь не забывалася на свае карані. Сітуацыя склалася з-за таго, што беларуская мова мала сустракаецца цяпер у паўсядзённым жыцці, на тэлебачанні. Таму ў мяне вельмі моцная ўнутраная павага да людзей, якія сёння размаўляюць па-беларуску. Мне здаецца, што ў нас такіх людзей робіцца больш.

***Еўрарадыё:*** *Тэкст для роліка Вам пераклаў Лявон Вольскі. Ці падабаецца Вам нехта з беларускіх музыкаў, якія займаюцца раскруткай мовы?*

**Віталь Радзівонаў:** Ёсць нашы "Песняры" - легендарны гурт. Ёсць "Беларускія песняры", яны ў 2011 годзе выступалі ў нас на ўганараванні каманды. Не магу сказаць, што я фанат нейкіх пэўных музычных стыляў. Але новую беларускамоўную музыку, якую чую па радыё, мне слухаць цікава, нават вельмі. Ведаю Лявона таго ж, "Ляпісаў".

***Еўрарадыё:*** *Калі БАТЭ пачало гуляць у Лізе чэмпіёнаў, Віктар Ганчарэнка заклікаў заўзятараў быць больш культурнымі. Здзіўляла сітуацыя, калі многія беларусы прыходзілі на стадыён найперш паглядзець на "Ювентус" і "Рэал". Выказваюцца думкі, што ў першую чаргу беларуская мова магла б дапамагчы выхаваць нашых заўзятараў больш патрыятычнымі і культурнымі. Ці згодны Вы з гэтым?*

**Віталь Радзівонаў:** Зразумела, мне здаецца, у гэтым кірунку варта рухацца нашаму спорту, гэта адназначна. Адзінае, натуральна, не ўсё адразу. Не праз год ці два беларуская мова ўвойдзе ва ўжытак па ўсіх сферах. Павінна прайсці шмат часу, і неабходна рабіць крокі, каб родная мова ўваходзіла ў жыццё грамадзян. А спорт можа стаць адной з пляцовак для рэкламы мовы. Карацей, футбол павінен у гэтым пытанні дапамагчы. Мне здаецца, нашым кіраўнікам варта ўжо задумвацца, якія крокі рабіць. Гэта было б цудоўна.

***Еўрарадыё:*** *Зараз шмат пішуць, што ў народнай каманды БАТЭ здарыўся спад. У чэмпіянаце абышоў "Шахцёр". Выказваюцца меркаванні, што каманда разлічвае такім чынам выйсці на пік падчас еўракубкаў. Ці маглі б Вы патлумачыць, што цяпер адбываецца?*

**Віталь Радзівонаў:** Я не сумняваюся, што ў нас усё будзе добра. Хочацца, каб гэта ўпэўненасць перадавалася заўзятарам. Што тычыцца спаду, то гэта спартовая статыстыка. Праз нейкі час у каманд здараецца спад, калі цягам гадоў знаходзішся на высокім узроўні. Хочацца думаць, што гэты спад, гэты крызіс у нас ужо скончыўся. Мы вельмі плённа абмяркавалі гэта пытанне на базе, вузкім колам, камандай. Вынайшлі прычыны таго стану, у які патрапілі. Маркую, зараз у нас будзе пад'ём угару. Нядаўна пазнаёміўся з такім выразам: часам чорная паласа пераўтвараецца ва ўзлётную. Хочацца верыць, што ўсё будзе цудоўна, і гэты год будзе больш паспяховым за папярэдні.

***Яўген Валошын,***
*Еўрарадыё.*

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў ліпені

Адамчык Надзея Іванаўна
Амбразевіч Людміла Мік.
Амяльковіч Віталь Леанідавіч
Амяльковіч Павел Анатол.
Арбузаў Анатоль Цімафеевіч
Арэшка Вераніка Вячаслав.
Аўдзейчык Ілля Анатольевіч
Аўсей Аляксандр
Бабенка Сяргей
Бацян Пётр Дзмітрыевіч
Баброўская Марына Вітал.
Балашка Алег
Баран Аляксандр
Бараноўскі Ігар Віктаравіч
Барболін Васіль Васільевіч
Бармута Юлія Уладзіміраўна
Белан Наталля
Бельская Святлана
Блізнюк Аляксандр Алякс.
Богдан Вадзім Міхайлавіч
Бубешка Уладзімір
Бумажэнка Я. М.
Буцко Павел Анісімавіч
Бязрукая Маргарыта Юр.
Варачаева Анастасія Андр.
Васечка Іван Уладзіміравіч
Ваўчок Аляксандр
Верамоўскі Аляксей Мікал.
Вячорка Вінцук Рыгоравіч
Гайко Сяржук Анатольевіч
Галавань Алесь
Галай Аркадзь Апанасавіч
Герасімовіч Казімір Станісл.
Глазко Дзмітры Мікалаевіч
Гняткоў Валеры
Голышаў Павел
Грузноў Валер Іосіфавіч
Грынько М.У.
Гуркоў Сяргей Мікалаевіч
Дабравольская Наталля Міх.
Данілава Таццяна
Даніловіч Мар'яна
Даўматовіч Іван Уладзімір.
Дзянісаў Гальяш
Дрожынава Іна Аркадзеўна
Ермакова Святлана Сярг.
Ермалёнак Вітольд Антонавіч
Ермаловіч Святлана
Жмачынскі Аляксандр Вікт.
Жыгальская Вольга Анатол.
Залацілін Аляксандр Валер.
Звераў Юры
Звонік Святлана
Згурская Ганна
Здановіч Іван Юльянавіч
Зелянкевіч Наталля
Знавец Павел Кірылавіч
Зуёнак Васіль Васільевіч
Ільініч Наталля Валянцінаўна
Ішчанка Кацярына Сяргееўна
Кавалёнак Л. П.
Казлова Алена
Казлова Святлана Мікал.
Казляк Любоў
Калеева Вераніка Уладзімір.
Каракін Андрэй Анатольевіч
Кардаш Наталля Аляксандр.
Кароткі Мікалай Мікітавіч
Карп Алена Аляксандраўна
Картавенкава Галіна Пятр.
Карчэўскі Анатоль
Касяк Кастусь
Кобер Таіса
Корзун Валянціна
Коцікаў Ян
Краснеўскі Віталь Сяргеевіч
Краўчанка Сяргей Канстанц.
Краўчук Маргарыта Дзмітр.
Крываручанка Ігар Мікал.
Крывашэеў Зміцер Сяргеевіч
Крывёнак Міхаіл Фадзеевіч
Ксянзоў Кірыл Уладзімір.
Кузяцоў Ігар Мікалаевіч
Кулак Жана Язэпаўна
Кульбеда Дзмітры Сяргеевіч
Кульбіцкі Пятро С.
Кундас Ганна
Кухарчык Пётр Андрэевіч
Лабадзенка Глеб Паўлавіч
Лагутаў Віталь
Лажкова Наталля
Лапановіч Андрэй Васільевіч
Лапкоўскі Алег Мікалаевіч
Лаўнікевіч Дзяніс Эдуардавіч
Лесавы Кірыл
Лецяга Ігар
Ліннік Міхаіл Аляксандравіч
Ліннік Сяргей Мікалаевіч
Літвіненка Аляксандр
Лукін Ілля Міхайлавіч
Лява Арцём
Лявіцкі Антон Мікалаевіч
Макарыч Максім Міхайлавіч
Макоўская Алена
Максімава Кацярына
Маоклы Дзяніс Ігаравіч
Мароз Наталля Алегаўна
Марчанка Пётр Георгіевіч
Машанскі Аляксандр Іван.
Машынская Ірына Антонаўна
Мікалаеўская Анастасія Іван.
Місюк Уладзімір Мікал.
Місюкевіч Аляксандр Іван.
Млынарчык Марыя
Молчан Барыс Валянцінавіч
Мулашкіна Лізавета Дзмітр.
Муха Анатоль Міхайлавіч
Навіцкі Пётр Лявонавіч
Нагдаляп Андрэй Мікалаевіч
Найдзёнава Вера
Нашкевіч Дар'я Іванаўна
Недзялкаў Яраслаў
Нікалаеўская Вольга Ігараўна
Ніканові Васіль Васільевіч
Новікава Марыя Сяргееўна
Пазняк Жана
Панізнік Алена Іванаўна
Паплыка Аляксандра Сярг.
Парда Аліна Іванаўна
Пастарнак Барыс Натанавіч
Паўлоўская Ганна Валер.
Пашкевіч Алег Эдуардавіч
Пашкевіч Мікалай Іванавіч
Пашкевіч Таццяна Валер'еўна
Піскун Андрэй Анатольевіч
Пракоф'ева Юлія
Прыбыткова Святлана
Пузанкевіч Сяргей Уладзім.
Пяткоўская Алена Іосіфаўна
Пятроў Аляксандр Аляксан.
Радзівонава Ірына Яўгенаўна
Радчук Віталь Дзмітрыевіч
Рамук Алена
Рашчэўскі Віталь Часлававіч
Розін Дзмітры Барысавіч
Рудовіч Мікалай
Русаў Пятро Аляксандравіч
Рымша Алесь Георгіевіч
Савік Мікола Пятровіч
Савіна Анастасія
Сагалец Ілля Фёдаравіч
Сакалоўскі Уладзімір
Самасюк Аляксандр Міхайл.
Сарокін Арцём Адамавіч
Сватко Павел Аляксандравіч
Семяненка Максім Уладзімір.
Сінцова Таццяна
Сітнікаў Арцём Сяргеевіч
Скупановіч Уладзімір Леанід.
Смаль Валянцін Мікалаевіч
Смола Таццяна
Стрыгельская Наталля Анат.
Сухаверхі Міхаіл Пятровіч
Сыч Ніна Лявонцьеўна
Сяменчык Настасся Мікал.
Сяркоў Андрусь
Сяткоўская Вераніка Уладзім.
Талапіла Алесь Львовіч
Талатай Святлана
Талерчык Тамара Васільеўна
Танкевіч Аляксандр Яўген.
Ткачова Вольга
Трапашка Марыя
Трацяк Вера
Тумаш Генадзь
Тупік Кацярына Віктараўна
Усцінава Людміла Нікіфар.
Філіповіч Валер Аляксеевіч
Хасанаў Ігар
Храпавіцкая Тамара Аркадз.
Хрол Часлаў Часлававіч
Цітко Валянцін Уладзіміравіч
Ціцянкова Галіна
Цішкевіч Вольга Іосіфаўна
Цішко Валянцін Уладзімір.
Цыганкоў Генадзь Васільевіч
Цюшкевіч Сяргей Анатол.
Чапля Данута
Чарнышоў Алесь Ігаравіч
Чарткоў Мікола Алегавіч
Чыгір Клаўдзія Сцяпанаўна
Чысцякоў Аляксей Уладзімір.
Шалупенка Васіль Іванавіч
Шарашовец Аляксандр Мік.
Шумскі Ягор Аляксандравіч
Шусціцкі Тадэвуш Віктар.
Шымірка Анатоль
Шыпай Аляксандра Генадз.
Шычко Валянціна
Шычко Святлана Вячаслав.
Шэравера Руслан Уладзімір.
Юран Антон
Язерскі Сяргей
Ярмац Аляксандр Аляксан.
Яскін Андрэй Алегавіч
Яўцюшкіна Таццяна Алякс.
Ячычка Віктар

# Беларускае слова не будзе для камп'ютара чужым?



Як было б добра: робіш нейкія нататкі ад рукі, а яны адразу ператвараюцца ў электронны фармат. Не трэба ніякай клавіятуры. Проста пішаш, як звычайна, - і ўсё. Тэхналогіі, якія дазваляюць гэта рабіць, ужо існуюць. Зразумела, што ў першую чаргу такое было зроблена для англійскай і іншых моў з лацінскім алфавітам. Але прыйшла чарга і беларускай.

Ліліян Саван, спецыяліст французскай кампаніі VisionObjects, якая спецыялізуецца на распазнаванні рукапісных тэкстаў, днямі пабываў у Беларусі, каб атрымаць як мага больш узораў почыркаў беларусаў. Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны стала партнёрам гэтай ініцыятывы і дапамагло ў яе ажыццяўленні. Тры дні ў офіс Таварыства прыходзілі людзі, неабыякавыя да роднага слова. Яны запаўнялі спецыяльныя анкеты на беларускай мове лічбавымі асадкамі, якія запаміналі почырк кожнага ўдзельніка. Усё гэта рабілася для таго, каб работнікі VisionObjects маглі пачаць працу па распазнаванні камп'ютарам і беларускай рукапіснай мовы. "Мэта праекту - сабраць прыклады почыркаў як мага большай колькасці людзей: мужчын і жанчын, старых і маладых. Пры дапамозе лічбавых асадак запісваецца працэс напісання літар, лічбаў і іншых знакаў ад кожнага ўдзельніка", - распавядае Ліліян Саван.

Падобная праца праводзіцца кампаніяй па ўсім свеце:

- Мы працуем не толькі з Беларуссю. Гэта і англійская, і японская, і мангольская, і шмат іншых моў. Нам асабліва цікава працаваць з мовамі, якія не маюць шырокага распаўсюду, каб захаваць іх. Такой з'яўляецца і беларуская. Мая праца заключаецца ў тым, што я павінен вандраваць па свеце і прасіць людзей пісаць, - прызнаецца спецыяліст.

Дарэчы, спадар Ліліян лічыць, што будучыня не толькі за лічбавымі формамі захавання інфармацыі:

- Рукапісы будуць існаваць заўсёды. Сёння, зразумела, людзі ўсё больш карыстаюцца планшэтамі, смартфонамі і іншай тэхнікай. Але ўсе гэтыя прыстасаванні маюць пэўныя абмежаванні. Вы заўсёды маеце патрэбу ў напісанні чаго-небудзь. З дапамогай ручкі, пальца, алоўка. І часам бывае, што напісаць нешта рукой значна прасцей і хутчэй, чым з дапамогай нейкіх тэхнічных прыстасаванняў. Аднак пасля гэтага часта даводзіцца пераводзіць усё ў лічбавы фармат з дапамогай камп'ютараў. Мы працуем для таго, каб чалавек мог пісаць сваёй рукой, як звычайна, а спецыяльная праграма адразу пераводзіла б гэта ў патрэбны фармат. Гэта вельмі эканоміць час. Такія магчымасці будуць вельмі карыснымі для адукацыі.

І сапраўды: замест таго, каб дзецям парушаць сваю маторыку на клавіятуры, лепей яны будуць пісаць, як на звычайнай паперы, а потым тэкст будзе пераводзіцца ў электронны выгляд.

Хочацца таксама спадзявацца, што ўсё гэта - першая прыступка на шляху да таго, што і беларуская мова будзе даступнай для карыстання ў найноўшай тэхніцы. Але праца яшчэ далёка не завершана. Адбыўся толькі пачатковы этап. Праект не абмежаваны па часе, ён перманентны: чым больш будзе ўдзельнікаў, тым больш якасным будзе распазнанне рукапісаў. Напэўна, у многіх беларусаў яшчэ з'явіцца магчымасць пакінуць у гісторыі сваё ўласнае беларускае слова для карысці мовы і нацыі.

*Уладзіслаў КУЛЕЦКІ.*



**На здымках:** 1. Ліліян Саван; 2. Запаўненне анкет.

# Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!

Шаноўныя сябры, завяршаецца падпіска на другое паўгоддзе 2013 года. У каталогу інфармацыя пра газету знаходзіцца на ст. 71. Цана змянілася нязначна. Да канца 2013 года мы спадзяёмся выходзіць на васьмі палосах. Газета мае добры рэдакцыйны партфель і планує для друку тэксты самых розных матэрыялаў, з рознымі поглядамі і падыходамі, у тым ліку і адрозныя ад пазіцыі рэдакцыі. Мы будзем працягваць друк моваазнаўчых і гістарычных матэрыялаў у выкладанні тых аўтараў, якіх вы не знойдзеце на старонках іншых выданняў. Мы не стараемся навязваць чытачу сваю думку ці погляды. Мы падаём факты. Чытайце, даведвайцеся, думайце. Будзьце з намі, і вы будзеце з усёй Беларуссю.

РП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

Колькасць камплектаў: 1

На 2013 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Куды (адрас)

(паштовы індэкс)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА

на газету / часопіс 63865 (індэкс выдання)

НАША СЛОВА (назва выдання)

Кошт: падпіскі 30300 руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў: 1

На 2013 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Каму (прозвішча, ініцыялы)

Куды (адрас)

(паштовы індэкс)

*Новае выданне*

# Легенды і паданні Слонімшчыны

Задача збірання і апублікавання вуснай народнай творчасці сёння асабліва надзённая. У выніку сацыяльна-дэмаграфічных працэсаў адбываецца разбурэнне традыцыйнай беларускай вёскі. Многія населеныя пункты перасталі існаваць ці знаходзяцца на мяжы існавання. Гэта і іншыя прычыны прыводзяць да страты рэгіянальнай вуснай народнай творчасці, якая ствaралася цягам стагоддзяў. Калі яе не занатаваць сёння, то пазней зрабіць гэта будзе хутчэй за ўсё немагчыма.

Прыгожая, мініяцюрная кніжачка "Легенды і паданні Слонімшчыны", якая на днях выйшла з друку ў менскім выдавецтве "Кнігазбор", вядомага пісьменніка, публіцыста і краязнаўца Сяргея Чыгрына - свежая падборка вуснага народнага мастацтва, руплiва сабраная на працягу многіх гадоў ад сваіх землякоў. Улюбёны ў родную Слонімшчыну, Сяргей Чыгрын не мог абысці ўвагай такога прыкметнага фрагмента народнай культуры, як легенды і паданні.

Амаль усе яны выконваюць растлумачальна-пазнавальную функцыю, апавядаюць пра штосьці даўняе, вартае памяці людзей. Праз легенды і паданні жыхары Слонімшчыны здаўна імкнуліся растлумачыць мясцовыя аб'екты і назвы вёсак, рэчак, азёраў, крыніцаў, асобных дрэў, камянёў, лясных мясцінаў, урочышчаў і інш.

У аснове вытлумачэння ляжаць рэальныя факты мінулага, якія ў гістарычным часе абраслі домысламі, легендарна значныя падзеі, ўяўна-фантастычныя сюжэты, імёны канкрэтных людзей і наднатуральных істотаў. Напрыклад, Слонімшчына яшчэ не страціла памяць пра набегі крыжакоў. Жыхары вёскі Азярніца паходжанне назвы рэчкі Акоўка тлумачаць наступным чынам. Крыжакі заўважылі вяскоўцаў на невялічкім астраўку і рашылі захапіць, каб знішчыць. Рушылі ўброд праз рэчку. Людзі сталі прасіць у Бога паратунку. І раптам сярод лета наступіла зіма, і крыжакоў у рэчцы скавала лёдам. Адсюль і назва пайшла - Акоўка.




Шэраг назваў звязана з рэальнымі асабовымі імёнамі мясцовых сялян (Тарасаў груд, Шпакава гара), паноў (Сурынка - пан Сурын, Скуратава студня - багацей Скурат).

Тыповымі на слонімскай зямлі, як і ва ўсёй Беларусі, выступаюць легенды і прымхліцы пра закапаны скарб (Гарадзішча каля Збочна), пра вёску ці царкву, якія праваліліся ў бездань (возера Бяздоннае, П'явічвозера, Святое возера).

Народнай фантазіяй аздоблены кароткія аповеды, у якіх дзейнічаюць істоты язычніцкай славянскай міфалогіі, такія як чорт (Чортава Вока, Чортава балота, Чортаў камень), змей (вёска Лапухова), русалка (вёска Азярніца), лесавік (урочышча Вомшар) і іншыя.

Многія ўласныя назвы жыхары Слонімшчыны тлумачаць з пункту гледжання народнай этымалогіі, якая адштурхоўваецца не ад фактаў, а ад самога наймення, яго "гаваркавасці". Зразумела, такія этымалогіі не з'яўляюцца навуковымі, але яны цікавыя тым, што раскрываюць моватворчае чуццё і фантазію нашых продкаў: вёска Смаўжы (у балоце было многа смаўжоў), рэчка Іярданка (сын Іяр і дачка Данка), вёска Клепачы (жыхары вельмі рана пачыналі кляпаць косы ў час касавіцы), Трыбушкі (жыхары вельмі любілі шмат есці, набіваць трыбухі), вёска Яруцічы (ад яма Руціча).

Кніга Сяргея Чыгрына "Легенды і паданні Слонімшчыны" карысная, цікавая і для навукі, і для ўсіх, каму дарагая родная мова і культура. Яна добры знак таго, што збіральніцкая справа духоўных народных скарбаў працягваецца, не заглохла. Гэта свайго роду прыклад і ўзор для краязнаўцаў іншых рэгіёнаў, пачэсны абавязак якіх зрабіць падобнае ў сваёй мясцовасці.

*Мікола ДАНІЛОВІЧ,*
*доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.*



## Радзівілаўская біблія XVI стагоддзя адлічбавана ў Беларусі

Па ініцыятыве дырэктара Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Наталлі Бярозкінай супрацоўнікі "Коласаўкі" аб'ядналіся з калегамі з бібліятэкі Акадэміі навук Літвы імя Ўрублеўскіх і падрыхтавалі першае поўнае перавыданне Радзівілаўскай Бібліі. Але не на паперы, а на дыску. CD падораць вядучым бібліятэкам краіны.

З 40 кніг, якія ацалелі ў свеце праз 450 гадоў пасля выйсця фаліянта, амаль усе - дэфектныя. На дыску самы поўны варыянт.

*Наш кар.*

# За вернасць Праўдзе і Свабодзе

19 чэрвеня ў дзень нараджэння Васіля Быкава адбылося свята з уручэннем традыцыйнай прэміі ў яго памяць, заснаванай Рухам "За Свабоду".

На мерапрыемстве прысутнічалі палітыкы Мечыслаў Грыб і Аляксандр Мілінкевіч, 1-шы сакратар амбасады Славакіі ў Беларусі Эрык Ліптак, прадстаўнікі культуры і мастацтва Беларусі, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, актывісты "Руху "За Свабоду" і "Таварыства беларускай мовы". Свята наведалі прадстаўнікі Ушацкага райвыканкаму, супрацоўнікі мемарыяльнага музея імя В. Быкава, мясцовыя жыхары. Пісьменнікі з Віцебшчыны чыталі ўрыўкі з твораў Васіля Быкава, у якіх сцвярджаецца перавага духоўных каштоўнасцяў. Сястра пісьменніка Валянціна Уладзіміраўна ўзгадвала дзяцінства і складаны жыццёвы шлях свайго брата, падкрэсліваючы яго чалавечнасць і таварыскасць.





У гэтым годзе лаўрэатамі прэміі "За Свабоду" думкі сталі Аляксей Марачкін і Зміцер Вайцюшкевіч.

Пасланне віца-прэзідэнта Еўрапарламента Яцака Пратасевіча зачытаў на імпрэзе ў Бычках лідар Руху "За Свабоду" Аляксандр Мілінкевіч:

"Мы высока цэнім вашую ініцыятыву працягнуць нашу традыцыю (маецца на ўвазе прэмія "За Свабоду думкі" імя Андрэя Сахарава) у сваёй краіне. Я ведаю, што абодва лаўрэаты 2013 года - выбітныя беларусы, якія сваімі творчымі дасягненнямі пашыраюць беларускую нацыянальную культуру і паказваюць яе сапраўды еўрапейскі характар, і што яны таксама ўздымаюць свой магутны голас у імя свабоды і дэмакратыі ў Беларусі. Я вельмі добра ўсведамляю, як шмат патрэбна адвагі, цярпення, моцы і вялізнай сілы волі, каб змагацца за вашыя асноўныя правы і правы вашага народу. Гэта няпростыя справы. Тым не менш, нават самы малы ўнёсак кожнага з вас вельмі важны.

Зычу вам, шаноўныя лаўрэаты, захаваць моц і веру ў лепшую будучыню вашай краіны, свайго народу, а таксама заўжды знаходзіць сілы, каб працягваць працу на карысць Беларусі і свабоды".

Аляксей Марачкін на ўручэнне прэміі прыбыў у Бычкі пасля пленэра ў польскім Вэнгруве:

- Мы прыязджаем сюды кожны год, з пачатку мастацкіх пленэраў, у цудоўны край азёраў, дыхаем паветрам свабоды, - узгадаў творца. - Мне бясконца дарагія гэтыя вулачкі, хацінкі. Гэта зямля для мяне святая.Толькі тут могуць нараджацца паэты і мастакі, такія, як Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў, які стаў мастаком слова. Гэту хату на ўзгорку відаць здалёк, яе відаць і за межамі Беларусі.



Гледачы добра памятаюць творы вядомага жывапісца па яго юбілейнай выставе ў Менскім Палацы мастацтва, якія спалучаюць вернасць традыцыям, гістарычнай і асветніцкай тэматыцы, і наватарскія сучасныя прыёмы. Душэўныя словы пра А. Марачкіна сказала Ада Райчонак.

Зміцер Вайцюшкевіч некалькім днямі раней вярнуўся са Славакіі, дзе ён разам з "WZ-Orkiestra" ўдзельнічаў у фестывалі дакументальных фільмаў. Ён працягвае знаёміць еўрапейцаў з сучаснай незалежнай беларускай культурай, нясе роднае паэтычнае слова ва ўсе куткі Беларусі. У хатах, на лецішчах і ў дарозе гучаць яго песні, надаючы добры настрой. У чэрвені Зміцер выступіць на каталіцкім фэсце ў Вязынцы і будзе спяваць у Гомелі.

Ля сядзібы пад вялізным дубам Зміцер Вайцюшкевіч выканаў для грамады твор на словы Ул. Някляева "Жыве Беларусь!", узгадаў радкі, прысвечаныя маці, Генадзя Бураўкіна, і завершыў выступ песняй Уладзіміра Караткевіча "Дзе мой край". Госці свята пажадалі шаноўным лаўрэатам далейшага творчага росквіту, моцы і здароўя.

Імпрэзу працягнулі пранікнёныя спевы Таццяны Матафонавай і выступ жаночага фальклорнага гурта з Віцебска "Паўночныя сухадроўкі".

*Э. Оліна.*

**Фота Арцёма Лявы.**

# Беларускую чыгунку павярнуць да мовы цяжэй, чым паравоз



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 213-43-52, 284-85-11, разліковы рахунак № 3015741233011 у аддз. №539 ААТ Белінвестбанка", г. Мінска, код 739

24 мая 2013 г. № 36

Начальніку Беларускай чыгункі
У.М. Марозаву.
вул. Леніна, 17
г. Мінск

**Паважаны Уладзімір Міхайлавіч!**

У нашу арганізацыю паступаюць заявы грамадзян Беларусі, якія абураны тым, што назвы чыгуначных станцый, а таксама візуальнае афармленне чыгуначных вакзалаў і прыпынкаў паступова пераводзяцца з беларускай на рускую мову.

Прывядзём канкрэтны прыклад. На Баранавіцкім напрамку нядаўна зніклі беларускамоўныя назвы чыгуначных станцый і прыпынкаў "Сталічны", "Воўчкавічы", "Памыслішча", "Бярэжа" і інш. Замест іх з'явіліся новыя, афармленыя толькі на мове суседняй дзяржавы, кіраўнік якой даўно марыць аб аншлюсе Беларусі шасцю губерніямі. Ставіцца пытанне і аб прыватызацыі Беларускай чыгункі замежнымі інвестарамі.

Новыя электрацягнікі "Гарадскіх ліній", як і праязныя білеты на праезд у іх, зроблены таксама выключна не на дзяржаўнай беларускай мове, тытульнай мове нацыі нашай краіны.

Нас не можа не турбаваць ігнараванне дзяржаўнай беларускай мовы рознымі структурамі Вашага ведамства. Складваецца ўражанне, што Вашы падначаленыя не падзяляюць думку Кіраўніка нашай дзяржавы, выказаную на IV Усебеларускім народным сходзе: "Беларуская мова з'яўляецца важнейшым нацыянальным культурным здабыткам".

У сувязі з гэтым мы прапануем тэрмінова вярнуць беларускамоўныя назвы чыгуначных станцый на Баранавіцкім і іншых напрамках, а таксама зрабіць інфармацыю на білетах "Гарадскіх ліній" БЧ на дзяржаўнай беларускай мове, як гэта зроблена на білетах ДП "Мінсктранс".

Дадаткі: Узоры білетаў, зробленых БЧ і Мінсктранс.

З павагай,
старшыня ТБМ А. Трусаў.



ОКОГУ 02193

МІНІСТЭРСТВА ТРАНСПАРТУ І КАМУНІКАЦЫЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ДЗЯРЖАЎНАЕ АБ'ЯДНАННЕ
БЕЛАРУСКАЯ ЧЫГУНКА
вул. Леніна, 17, 220030, г. Мінск
Тэл. (017) 225 48 60, факс (017) 227 56 48
E-mail: ns@rw.by
Р.р. 3012600090017 філіял 527 «Белжелдор»
ААТ «ААБ Беларусбанк» код 254 г. Мінск
АКПА 00047792 УНП 100088574

МИНИСТЕРСТВО ТРАНСПОРТА И КОММУНИКАЦИЙ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ГОСУДАРСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ
БЕЛОРУССКАЯ ЖЕЛЕЗНАЯ ДОРОГА
ул. Ленина, 17, 220030, г. Минск
Тел. (017) 225 48 60, факс (017) 227 56 48
E-mail: ns@rw.by
Р.с. 3012600090017 филиал 527 «Белжелдор»
ОАО «АСБ Беларусбанк» код 254 г. Минск
ОКПО 00047792 УНП 100088574

07.06.2013 № 20-04-23/9077

На № ___________ ад ___________

Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"

Аб інфармаванні

Ваш зварот па пытанні выкарыстання беларускай мовы ў назвах чыгуначных станцый разгледжаны.

Адпаведна арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 года дзяржаўнымі мовамі ў рэспубліцы з'яўляюцца - беларуская і руская.

У адпаведнасці з пунктам 4.5 раздзелу 4 "Агульныя палажэнні" СТП 09150.50.149-2010 "Порядок нанесения наименований вокзалов, станций, остановочных пунктов, депо, дистанций и пассажирских участков, инвентарных номеров объектов основных средств на Белорусской железной дороге. Общие требования " (зацверджаны загадамі ад 16.11.2010 № ПЗОНЗ, ад 24.02.2011 № 186НЗ) тэкст у назве аб'ектаў Беларускай чыгункі і ў службовых словах ("чыгуначны вакзал", "станцыя", "вагоннае дэпо" і да т.п.) прыводзіцца на беларускай і (або) рускай мовах.

У лістападзе 2010 г. прыняты Закон № 190-З "Аб назвах геаграфічных аб'ектаў", у адпаведнасці з арт. 17 якога, назвы станцыям Беларускай чыгункі прысвойваюцца на беларускай мове і спосабам транслітарацыі перадаюцца на рускую мову.

Такім чынам, пры адкрыцці новых станцый (пасля 01.03.2011), у ходзе рамонту і рэканструкцыі дзеючых, іх назвы будуць прыведзены на беларускай мове.

У цяперашні час ідзе замена шыльдаў з назвамі станцый і прыпыначных пунктаў у адпаведнасці з СТП 09150.50.149-2010.

Праязны дакумент "на адну паездку" ў электрацягніках ЭП1 быў распрацаваны ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, узгоднены з Дэпартаментам дзяржзнакаў Міністэрства фінансаў і зарэгістраваны ў Дзяржрэестры бланкаў строгай справаздачнасці за № 4276.

Першы намеснік
Начальніка Беларускай чыгункі У.Б. Міхайлюк.

## Працягваем вывучаць сваю гісторыю

21 чэрвеня адбыліся чарговыя заняткі летняй гістарычнай школы з Алегам Трусавым "Гісторыя на вакацыях". Былі разгледжаны пытанні ўзаемаадносін Беларусі і Швецыі ў Сярэднявеччы і Новым часе з 8-9 па 18 ст. Найбольшая ўвага ўдзялася дынастыі Вазаў у канцы 16 ст. і першай вялікай вайне 1600-1629 гг., у выніку якой была страчана частка Прыбалтыкі з Рыгай, пачалася працяглая вайна з Маскоўскай дзяржавай - саюзніцай Швецыі, якую ўдалося выйграць і вярнуць Смаленск і Чарнігаў. Прысутныя атрымалі адказ на хвалюючыя пытанні, была праведзена міні-віктарына. Пераможца атрымаў каштоўны прыз.

Наступныя заняткі школы адбудуцца 28 чэрвеня (у пятніцу) а 18-й гадзіне на Румянцава, 13. Тэма заняткаў - "Апошні росквіт Рэчы Паспалітай (1634-48) і пачатак польска-ўкраінскага канфлікту". Запрашаем усіх ахвотных.

Сакратарыят ТБМ.

## Дзесяць гадоў таму не стала Васіля Быкава

Споўнілася 10 год са дня смерці народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава. У гэты дзень аддаць даніну памяці на Ўсходнія могілкі ў Менску, дзе ён пахаваны, без усялякіх заклікаў прыходзілі дзясяткі людзей.

Гэта былі сябры "Саюза беларускіх пісьменнікаў", прадстаўнікі "Беларускай хрысціянскай дэмакратыі", іншых палітычных і грамадскіх аб'яднанняў, звычайныя грамадзяне.

Па словах старшыні "Саюза беларускіх пісьменнікаў" Барыса Пятровіча (Сачанкі), творчасць, асоба Быкава застаюцца актуальнымі і важнымі. Яго няма побач з намі фізічна, але духоўна ён побач, кажа Барыс Пятровіч:

- Вось так нібыта нябачна Васіль Уладзіміравіч працягвае быць побач з намі, працягвае ўзбуджаць нас, абуджаць, працягвае ўзрушаць нас. Мы ўсе вельмі яму ўдзячныя за гэта, за тое, што ён зрабіў для Беларусі, за тое, што працягвае рабіць, нават калі яго няма побач з намі.

Па словах Барыса Пятровіча (Сачанкі), нездарма Быкава лічаць прарокам. Яго творчасць будзе важнай і ў будучым. Кіраўнік "Маладых хрысціянскіх дэмакратаў" Марына Хоміч таксама лічыць, што зробленае Васілём Быкавым - на вякі.



Па словах Марыны Хоміч, крыўдна і недапушчальна, што памяць Быкава не шануецца, замоўчваецца на дзяржаўным узроўні. У Беларусі няма нават вуліцы яго імя, але гэты час хутка скончыцца, упэўнена Марына Хоміч.

*Генадзь Барбарыч.*

# Дзякуем за дапамогу!





### Ахвяраванні на ТБМ

1. Сябры ТБМ кампаніі "Гавары праўду" - 2619000 р., Беларусь
2. Сабалеўскі Алесь - 200000 р., г. Менск
3. Асіповіч Лідзія - 100000 р., г. Менск
4. Васілічак - 100000 р., г. Менск
5. Жук В. - 100000 р., г. Гародня
6. Парнюк І.С. - 50000 р., г. Менск
7. Салавей А.І. - 50000 р., г. Ліда
8. Шыпуль Наталля - 20000 р., г. Менск
9. Малюкова Я.І. - 10000 р., г. Гомель
10. Мяшкова Наталля - 70000 р., г. Астравец
11. Навасельская Тацяна - 100000 р., г. Менск
12. Ахрамчук Віктар - 30000 р., г. Светлагорск
13. Жураўлёва Тацяна - 100000 р., г. Менск
14. Ліс Арсень - 50000 р., г. Менск
15. Крамко І.І. - 50000 р., г. Менск
16. Хаменка Ігар - 100000 р., г. Менск
17. Сіцькіна Тацяна - 50000 р., г. Менск
18. Косцік Тацяна - 60000 р., г. Менск
19. Барцэвіч Іван - 10000 р., г. Менск
20. Дайнека А.В. - 50000 р., г. Менск
21. Галаўнёў Мікола - 705000 р., г. Менск
22. Какоева Антаніна - 20000 р., г. Берасце
23. Глебік Юры - 200000 р., г. Свіслач
24. Ерхава Алена - 40000 р., г. Менск
25. Восіпава А.Е. - 50000 р., г. Менск
26. Антанюк Іван - 100000 р., г. Менск
27. Дубараў Сяргей - 100000 р., г. Менск
28. Астравецкі А.А. - 102500 р., г. Берасце
29. Рыбачонак Алесь 300000 р.
30. Бакіноўскі Валянцін - 20000 р., г. Менск
31. Міцкевіч Яўген - 40000 р., г. Менск
32. Сябры клуба "Прамова" - 60000 р., г. Менск
33. Міраповіч Л.С. - 50000 р., г. Менск
34. Турок Віктар - 20000 р., г. Гародня
35. Якшэвіч Алег - 30000 р., г. Менск
36. Табалевіч Юры - 100000 р., г. Менск
37. Пляшко Н.Г. - 30000 р., г. Менск
38. Краўчанка А.Я. - 300000 р., г. Менск
39. Куўшынікава Ларыса - 100000 р., г. Менск
40. Валатоўская Нінэль - 50000 р., г. Менск
41. Дрэвіц Вера - 50000 р., г. Менск
42. Шкірманкоў Фелікс - 50000 р., г. Слаўгарад
43. Касцюковіч Зміцер - 50000 р., г. Чэрвень
44. Лабыка Зміцер - 30000 р., г. Менск
45. Гурэнь В.В. - 100000 р., г. Маладзечна
46. Ігнатовіч Аўгіння - 50000 р., г. Менск
47. Прылішч Ірына - 50000 р., г. Менск
48. Грабоўскі В.Н. - 20000 р., г. Менск
49. Бубен Канстанцін - 5000 р., г. Менск
50. Птушка Сяргей - 30000 р., в. Хільчыцы, Жыткавіцкі р-н
51. Мішкевіч Л.М. - 200000 р., г. Менск
52. Згірскі Руслан - 25000 р., в. Прстунь, Глыбоцкі р-н
53. Маргуноў Віталь - 200000 р., г. Магілёў
54. Камандзірчык А.А. - 5000 р., г. Гомель
55. Калягонік Зміцер - 20000 р., г. Менск
56. Дубко Тамара - 50000 р., в. Слабада, Лагойскі р-н

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ "Беінвестбанка" код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Касір
Пеня
Разам
Плацельшчык

Квітанцыя

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705
атрымальнік плацяжу
Аддзяленне № 539 ААТ "Белінвестбанк"
назва банка
Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739
(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Касір М.П.
Пеня
Разам
Плацельшчык

Уладзімір Скрабатун

# Ён рабіў тут Беларусь

*Глыбоччына славіцца сваімі вішнямі! Улетку гэтага года ў нашым горадзе адбудзецца Вішнёвы фэст. Глыбокае становіцца вішнёвай сталіцай Беларусі. Плануецца праводзіць гэты фэст штогадова.*

*Чаму ж так добра родзяць вішні ў нашым краі? Зразумела, аўтар гэтага матэрыялу не з'яўляецца адмыслоўцам у гэтай галіне, таму агучвае стэрэатыпнае меркаванне многіх людзей - гэтаму спрыяюць нашыя суглінiстыя глебы.*

*Вось і гады чатыры таму, пад час набыцця саджанца чарэшні на рынку, садавод, які прадаваў, параіў мне: перад пасадкай дрэва, абавязкова, акуніце карані ў "раствор" гліны, каб яна, як мага больш ахутала карані. І, ведаеце, гэта дало плён! Добра родзіць мая чарэшня.*

*Як цвердзяць нашыя старажылы, да закладкі дабрагатунковых вішнёвых садоў на Глыбоччыне ў 1930-я гады спрычыніўся павятовы аграном* ***Баляслаў Нікадзімавіч Лапыр.***

***Аграном - легенда***

Жыхар Глыбокага Пётр Альбінавіч Вярцінскі распавёў калісьці аўтару гэтых радкоў ледзве не легендарную гісторыю. Аднойчы павятовы аграном Баляслаў Лапыр наведаўся ў вёску Старыя Шарабаі. І быў вельмі ўражаны, што ў сялянаў пустуе шмат зямлі. Пытае:

- Чаму нічога не сееце?

- Ай, паночку, на гэтай зямлі нават трава не расце!- кажуць тубыльцы.

Аграном Лапыр, калі выпраўляўся на аб'езд ваколіцаў Глыбокага, заўсёды браў з сабой чайную лыжку і бутэльку пітной вады. Так было і на гэты раз. Уважліва агледзеўшы сялянскія палеткі, ён зачэрпнуў лыжкай тутэйшую глебу, паклаў яе ў рот, "пасмакаваў", сплюнуў, прамыў рот вадой, ды і кажа:

- Пасадзіце ў гэты год буракі, а наступным годам - цыбулю, толькі ўгнаенне не кладзіце, а дадайце пячной сажы...

Даў ім адмысловы плуг узараць дзірван. Увосень Баляслаў Лапыр ізноў прыехаў у Старыя Шарабаі. Сяляне хваляць ураджай, дзякуюць аграному:

- Паночку, можа грошы возьмеце за параду?

- Не! Мне нічога ад вас не трэба, - кажа. - Вазьму толькі чатыры буракі.

Паклаў іх у люльку матацыкла і паехаў. Наступным годам сяляне хвалілі добры ўраджай цыбулі. Кажуць, што з таго часу шарабайцы надта вялікія адмыслоўцы ў вырошчванні цыбулі, як сапелінцы ў капусце. Глыбоцкія сяляне лічылі за вялікі гонар дастаць у агранома Лапыра добрага гатунку зерня на насенне. Яны яго так і звалі "заводнае зерне ад Лапыра".

***Руплівы сейбіт беларушчыны***

Некаторыя інфармацыйныя агенствы (БелТА, напрыклад) з нагоды абвяшчэння Глыбокага вішнёвай сталіцай Беларусі, паспяшаліся выдаць Баляслава Лапыра за мясцовага памешчыка. Не! Баляслаў Лапыр быў сынам беларускага селяніна.

Ніна Аляксандраўна Абрампальская (у дзявоцтве Ліля), колішняя выкладчыца Менскага лінгвістычнага ўніверсітэта, тады была зусім юнай, сябравала з дзецьмі Баляслава Лапыра, напісала невялікія ўспаміны пра легендарнага агранома, яны змешчаныя і ў кнізе "Памяць. Глыбоцкі раён":

*"Вось, пабывала на сваёй радзіме, на Глыбоччыне, сустрэлася там з сябрамі дзяцінства і маладосці, успомнілі мы свайго земляка, цудоўнага чалавека, які пакінуў аб сабе добрую памяць, і вырашыла расказаць пра яго. Гэта - аграном Баляслаў Лапыр.*

*Атрымаўшы адукацыю агранома, што для простага беларуса мела вялікі гонар, быў прызначаны павятовым аграномам. На сваім хутары ён вёў доследную работу, на што ішла большая частка заробку. А рабіў ён гэта з мэтай навучыць сялянаў з наваколля па-навуковаму весці гаспадарку. Але не толькі гэтым займаўся пан Баляслаў. Ён быў сапраўдным барацьбітом за родную беларускую культуру, за правы кожнага быць беларусам, размаўляць на роднай мове, пець песні, чытаць кнігі. Усё гэта было ў панскай Польшчы ў загоне. Аграном Лапыр арганізаваў з навакольных сялянаў драматычны гурток. Як любілі мы глядзець спектаклі на роднай мове! Ад пана Баляслава мы ўпершыню пачулі вершы Багушэвіча, Купалы, Коласа, "Новую зямлю". Зімовымі вечарамі, на святы былі "спеўкі". Як прыгожа гучалі родныя мелодыі, якімі прыгожымі запомніліся мне выканаўцы! Усё гэта вельмі не падабалася польскім уладам, і толькі высокі прафесіяналізм агранома і самаадданая праца давала магчымасць Лапыру застацца на пасадзе.*

*З вялікай павагай адносіўся пан Баляслаў да людзей другой нацыянальнасці. Дарэчы, жонка Лапыра была полька. З ёй муж і дзеці размаўлялі па-польску, але пані Стэфанія вельмі хутка авалодала беларускай мовай і размаўляла з сялянамі па-беларуску, удзельнічала ў беларускіх спектаклях, спявала беларускія песні.*

*У Лапыра мы бралі беларускія кніжкі, беларускі каляндар. Гэта было небяспечна ў той час, але гэта не спыняла пана Баляслава. Ён, як руплівы сейбіт, сеяў беларускае слова сярод сялянаў. А тое, што ў Глыбоцкім касцёле набажэнствы вялося на беларускай мове, таксама заслуга Лапыра. Гэта было ўжо ў час вайны".*

***Ён рабіў тут Беларусь!***

Мая колішняя суседка спадарыня Вінцэнта, у сярэдзіне 1990-х гг., калі аўтар збіраў успаміны старажылаў, ахарактарызавала Баляслава Лапыра вельмі лаканічна, але досыць выразна: "Ён рабіў тут Беларусь!"

У Гданьску жыве Ўладзіслаў Страшэвіч, сын Баляслава Лапыра, які ў сярэдзіне 1990-х гг., калі аўтар быў двойчы ў гэтым горадзе, прадставіў уласнаручна напісаныя біяграфічныя звесткі пра свайго бацьку:

*"Баляслаў Лапыр нарадзіўся 5 траўня 1895 года ў Пецярбурзе ад бацькі Нікадзіма і маці Гелены, з дому Індрунас. Нікадзім паходзіў з вёскі Рубеж Браслаўскага павету.*

*Баляслаў хадзіў у пачатковую школу ў Браславе. Вызначаўся вялікімі здольнасцямі так, што ім зацікавіўся каталіцкі біскуп, складаючы грошы на яго навучанне. Над ложкам Баляслава вісеў партрэт таго біскупа. Сярэднюю школу Баляслаў Лапыр скончыў у Коўне (1909 г.?), потым атрымаў адукацыю агранома ў Пецярбурзе (1916 г.?) У 1926 годзе ажаніўся са Стэфаніяй Страшэвіч. Маладая сям'я, недзе ў 1926 годзе, набыла 11 гектараў зямлі ў Глыбокім.*

*У 1932 годзе нарадзіўся сын Уладзіслаў, потым дочкі Янка, Гэля і Марынка.*

*- У нашым доме было прынятае двухмоўе,-* згадвае спадар Уладзіслаў. *З бацькам размаўлялі па-беларуску, з маці - па-польску. Дзеці між сабой - па-беларуску. Бацька з маці папольску. Мяне з сёстрамі бацька выхоўваў свядомымі беларусамі.*

*Мой бацька перад вайной адпрацаваў 15 гадоў павятовым аграномам. У сваім жыцці ён на першае месца ставіў беларускія справы, потым прафесійныя, а на канец - сямейныя,- так казала мая маці. Маці ж займалася гадоўляй высокапародзістых курэй. У 1939 годзе атрымала 1-ую ўзнагароду - залаты медаль на выставе курэй у Вільні.*

*Баляслаў Лапыр імкнуўся да абуджэння ў загуканым беларускім народзе парасткаў свядомасці і нацыянальнай годнасці. Са мной бацька размаўляў, як з дарослым. Казаў: "За царом Беларусь была шэрай правінцыяй Расіі, і за часамі польскімі сталася падобна. У абодвух выпадках не было беларускіх школаў. Расія, роўна як і Польшча, імкнуліся да ўтрымання ў цемры і нарадавыраджэнні беларусаў...*

*Вельмі дзівіла бацьку, што некаторыя беларусы цураліся матчынай мовы, сцвярджаючы: "Мы гаворым папросту". Бзыталі нацыянальнасць з рэлігіяй. "Мы - палякі, бо молімся па-польску ў касцёле".*



**Баляслаў Лапыр.** *Здымак з сямейнага альбома Уладзіслава Страшэвіча, г. Гданьск.*

*Мой бацька пачуваўся пакліканым да абуджэння нацыянальнай свядомасці сярод беларускага люду. Мабілізоўваў на гэтую справу іншых свядомых беларусаў: інтэлігенцыю, святароў і вайскоўцаў. Быў у сталым кантакце з іншымі беларускімі патрыётамі, якія думалі так, як і ён: ксяндзамі Стэповічам і Гадлеўскім, беларускім генералам Станіславам Булак-Балаховічам.*

*Баляслаў Лапыр дамагаўся больших правоў для беларускай нацыянальнай меншасці. Ведаю, што мой бацька, які быў радным беларускай меншасці ў акруговым соймiку, удзельнічаў у дэлегацыі да прэзідэнта Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масціцкага ў справе больших свабодаў для беларусаў, а менавіта: адкрыцця беларускіх школаў, часопісаў і хацця б аднаго казання ў некаторых касцёлах па-беларуску.*

*Дэлегацыя тая мела вялікія цяжкасці ў здабыцці аўдыенцыі, але і пасля яе - нічога не атрымалася. Бацька адчуў вялікі ціск з боку ўладаў, яму пагражалі: "Калі будзеш баламуціць беларусаў, то апынешся ў канцэнтрацыйным лагеры ў Бярозе-Картузскай!"*

Баляслаў Лапыр шмат пісаў для прафесійных выданняў, напрыклад, для "Tygodnika Rolniczego", меў цыкл перадачаў на віленскім радыё.

*- Будучы малымі хлопцамі, мы часта слухалі бацьку праз слухаўкі радыё на акумулятарах,-* згадвае далей спадар Уладзіслаў. *Ён быў прапагандыстам асветы сярод беларускага народу. У беларускіх вёсках арганізоўваў аграномічныя і заатэхічныя курсы. Пры аказіі тых курсаў прапагандаваў беларускую свядомасць і ягосамасць. Арганізоўваць фальклорныя гурткі - было яго хобі.*

*У арганізацыі тых курсаў дапамагаў яго намеснік, паляк Ставінскі, вайсковы асаднік. У часе народных святаў ён апранаў мундзір польскага паручніка і жартаваў: "Болек, яшчэ трохі і застану праз цябе павернуты на беларусіна!" Ставінскі вельмі спрыяў беларусам і разумеў бацьку. І гэта - не адзіны выпадак спрыяння палякаў беларусам. Быў яшчэ нехта п. Ляды, намеснік старасты, вельмі ўплывовы чыноўнік, а таксама віца-ваявода віленскі.*

*- Каб не яны і не іншыя палякі, то "беларусажэрцы" даўно б з'елі бацьку,- так згадвала мая маці, Стэфанія Страшэвіч.*

*Польскія ўлады высока цанілі прафесійныя здольнасці бацькі, шматкроць прапаноўвалі высокія пасады ў Вільні і Варшаве, "абы толькі не буntаваў беларусінаў ды перапісаўся на паляка".*

*Аднак, у рэшце рэшт, Баляслава Лапыра, пераканаць не ўдалося, і ў 1939 годзе, у 44 гады, ён быў звольнены з працы павятовага агранома і адпраўлены на пенсію.*



***Сядзіба Лапыроў, 1930-ыя гг.*** *Не захавалася. Малыя лістоўніцы, якія бачныя перад домам у правым куце здымка, - сёння вялікія ўжо дрэвы. Здымак з сямейнага альбома Уладзіслава Страшэвіча, г. Гданьск.*



***Баляслаў Лапыр (сядзіць у цэнтры) сярод беларускіх вясковых жанчын.***
*Здымак з сямейнага альбома Уладзіслава Страшэвіча, г. Гданьск.*
*Праўдападобна, гэта і ёсць адзін з гурткоў "вясковых гаспадынь", арганізаваны Баляславам Лапыром, з якімі ён праводзіў лекцыі, а пасля заняткаў арганізоўваў гурткі спеваў і танцаў, беларускага фальклору.*

*Гэта было перад самым выбухам Другой Сусветнай вайны. У Глыбокім ужо дзейнічала нямецкая рэзідэнтура, сярод якіх быў пан Вітвіцкі, слынны потым, у часе нямецкай акупацыі, гестапаўскі мардэрца.*

*У самых чытаных нямецкіх газетах з'явіліся публікацыі аб дыскрымінацыі нацыянальных меншасцяў у Польшчы: немцаў, беларусаў і ўкраінцаў. Як прыклад, быў пададзены факт, што ў Глыбокім, у 44 гады, быў звольнены з працы аграном Баляслаў Лапыр, выбітны спецыяліст, да якога польскія ўлады, паводле прафесіі, не мелі ніякіх прэтэнзіяў, а звольнілі толькі за тое, што ён - беларус.*

*І тут пачалося! Штораз да бацькі прыязджала рознае польскае начальства, абы залагодзіць сітуацыю, уціхамірыць немцаў. Няма ў Польшчы ніякай дыскрымінацыі нацменшасцяў! Абяцалі самыя высокія пасады, хоць і міністра сельскай гаспадаркі Польшчы. Баляслаў Лапыр: "Не! Мне ў 44 гады і на пенсіі - добра! Не хачу жыць на два дамы".*

*У рэшце рэшт угаворы польскіх чыноўнікаў здабылі плён. Аднак Баляслаў Лапыр высунуў умовы, што супрацоўніцтва магчымае пры наступных варунках: раз на тыдзень - беларускамоўная перадача на віленскім радыё; выданне беларускіх газет; раз на тыдзень і ў святы - ва ўказаных касцёлах - беларускае набажэнства…*

*Абы немцы спынілі антыпольскую прапаганду - чыноўнікі пагадзіліся, а Баляслаў Лапыр паехаў працаваць старастам, кудысьці пад Вільню".*

Аднак, тое было зусім нядоўга. 17 верасня ў Заходнюю Беларусь увайшла Чырвоная Армія. Новая ўлада Баляслава Лапыра пакуль не чапала.

У часе апошняй вайны сям'я Лапыроў знаходзілася ў Глыбокім, а сам Баляслаў займаўся беларускай нацыянальнай справай. На сёння не вельмі зразумела, якую пасаду пад нямецкай акупацыяй займаў Баляслаў Лапыр. Проста, у нас не хапае звестак. Праўдападобна, як і сцвярджае спадар Уладзіслаў, яго бацька займаўся стварэннем беларускіх школаў, беларусізацыяй касцёла і царквы. Калі верыць сп. Вярцінскаму, Лапыр выдаваў у Глыбокім і нейкую газету на беларускай мове.

Не мог ён спакойна назіраць, як паляць беларускія вёскі разам з жыхарамі. Ён завітаў да свайго непасрэднага начальніка немца. Прынамсі, Лапыр бегла валодаў нямецкай мовай. Дайшло да вострага абмену слоў. Немец сказаў штосьці накшталт таго: *"Калі беларусы пачнуць павучаць вышэйшую расу, то адразу патрапяць у лік нацыяў, якія варожа настроены да немцаў".* Вось тут Баляслаў Лапыр і выгарнуў тое, што думаў пра акупантаў. Афіцэр выцяў Лапыра ў твар, а ён адказаў тым самым. Тады немец дастаў пісталет і мог бы стрэліць… Аднак, пачуўшы валтузню, у кабінет зайшоў шэф таго немца-афіцэра.

Шэф, паводле словаў спадара Уладзіслава, быў "людскім чалавекам". Ён сказаў Лапыру: *"Табе гэтага не даруюць! Адна дарога - у канцлагер… Даю табе рэкамендацыйны ліст да свайго прыяцеля, які ёсць уласнікам маёнтка Granzkevitz на выспе Руге".* І Лапыры паехалі… Так, у верасні 1943 года скончылася праца Баляслава Лапыра на карысць Беларусі.

На выспе Руге Баляслаў Лапыр працаваў у лабараторыі, якая прадуквала новыя гатункі збожжа. Цікава, што на гэтай выспе беларусы, украінцы і сербы не насілі ніякіх нашывак на адзенні і мелі тыя ж харчовыя карткі, як і немцы, а вось палякі і расіяне мелі на шмат меншыя харчовыя карткі і насілі нашыўкі: палякі - "P", а расіяне - "Ost".

У красавіку 1945 года выспу Руге занялі савецкія войскі. Людзей з абшараў Савецкага Саюза пачалі дэпартаваць назад. Сям'я Лапыроў, як і сотні іншых, апынулася за калючым дротам у Ваўкавыску. Падчас аднаго з выклікаў на допыт Баляслаў Лапыр не вярнуўся. Ужо ніколі не вярнуўся. І лёс яго невядомы.

Жонка Баляслава Лапыра - Стэфанія Страшэвіч - вярнулася з дзецьмі ў Глыбокае, дзе з вялікімі цяжкасцямі перапісала дзяцей на сваё дзявочае прозвішча - Страшэвіч. Страшэвічы выехалі ў Гданьск на сталае жыхарства.

* * *

Уладзіслаў Страшэвіч, сын Баляслава Лапыра - актыўны ўдзельнік беларускага таварыства ў Гданьску.

# Нескароная душа паэта...

Перада мною - кніга. Не, хутчэй кніжка, бо ўсіх старонак у ёй - 67. Але нават, калі толькі трымаю яе ў руках, пачуваюся не па сабе. Чаму? Бо ведаю, хто аўтар гэтай кніжкі. Ведаю, на жаль, толькі завочна. Хаця і жывём мы ў адным, Івацэвіцкім раёне і падзяляюць нас - ад маіх Івацэвічаў да ягонай вёскі Магіліцы - нейкія 20 - 25 кіламетраў. Мы ўсё яшчэ незнаёмыя, ні разу не сустракаліся. Затое я шмат чуў пра гэтага незвычайна мужнага хлопца, тое-сёе чытаў яго. І толькі калі займеў яго першую кнігу вершаў і прозы, даведаўся: аказваецца, не хлопец ён ужо даўно, якраз сёлета яму - ні многа, ні мала - паўстагоддзя.

"Нескароная душа" - так назваў свой уступ да паэтычнага зборніка Анатоля Галушкі наш івацэвіцкі пісьменнік Валер Гапееў. Дарэчы, ён жа і ініцыяваў выхад кнігі ў свет, да ўсяго, прыклаў свае намаганні да дызайну і вёрсткі яе.

Дык чаму ж "нескароная душа?" А таму, патлумачыў у сваёй прадмове В. Гапееў, што ў свае няпоўныя сямнаццаць гадоў, ледзь скончыўшы сярэднюю школу, Анатоль Галушка атрымаў цяжкую траўму. Якая зрабіла гэтага вясёлага, рухавага, адоранага прыродай пасвойму тонка і глыбока бачыць і ўспрымаць акаляючы яго свет, хлопца інвалідам. І юнак, які вызначаўся сваёй непаседлівасцю, няўрымслівасцю, дзякуючы чаму абышоў у дзяцінстве толькі яму вядомымі сцежкамі ўсё навакolle роднай вёскі, аказаўся раптам моцна "прыкаваным" да свайго ложка. З гэтага моманту нібы нябачная ды незварушная сцяна падзяліла яго жыццё на тое, што было, і тое, што сталася. Родныя краявіды з іх пералескамі, сенажацямі, з дзіцячымі і юначымі захапленнямі, з бясконцымі гульнямі на вясковым поплаве, на вадзе і пляжы на лёдзе ці проста на вуліцы, засталіся там, па адзін бок сцяны, ужо недасяжальныя, ужо толькі нібы мройныя, а па другі бок - толькі чатыры сцяны пакоя ў бацькаўскай хаце, ложак і адчайнае, поўнае разгубленасці пытанне: як жыць далей, які сэнс у такім жыцці?

Зноў прыводжу радкі з прадмовы Валера Гапеева: "Анатоль знайшоў сэнс. Пабачыў святло. Паставіў на месца Сусвет".

Ёсць такі выраз: "Трымацца за жыццё рукамі і нагамі, нават зубамі". Апошнія, як ні цяжка гэта вымаўляць, і замянілі хлопцу рукі. У прамым сэнсе гэтых слоў. Бо аднойчы менавіта зубамі ён што ёсць сілы сашчаміў аловак і пачаў малаваць. Каб малюнкам надаць тыя фарбы, якімі захапляўся падчас сваіх гульняў на прыродзе, алоўкі змяніў на пэндзлі. І нарадзіліся палотны: з роднымі ўзлескамі, з роднымі хлебнымі нівамі, з роднымі ад самага дзяцінства рачнымі затокамі і пясчанымі плёсамі, на якіх спачатку падлеткам, а потым юнаком любіў паляжаць на летнім сонейку Анатоль. Дарэчы і кніжка яго першая паэтычная не выпадкова называецца "Сляды на пяску". Колькі іх было пакінута на пясчаных водмелях ягонай Шчары - не злічыць! І каця, як піша паэт, "на чыстым аркушы пяску слядоў маіх не засталося...", ці ў іншым вершы: "І толькі ног маіх сляды размылі хвалі без астатку".

Менавіта тыя сляды ён бачыць па-ранейшаму, адчувае ўсім сабою, бо ведае: яны былі, яны ёсць, яны не зніклі, не знік ён сам, як не зніклі яго ўспаміны, як ускрэс у ім боскі дар ужо не дзіцячымі, а вачыма пяцідзесяцігадовага мужчыны, можа ўжо нават па-новаму, больш выразна бачыць усю тую хвалюючую прыгажосць і роднай прыроды, і роднай вёскі, і родных людзей, якую ўпершыню, мо яшчэ недастаткова сведама, спазнаў з дзяцінства і, як аказалася, назаўсёды. І вялікі дзякуй Богу, што гэта так, што па-ранейшаму жыве ў ім той дзівосны свет дзяцінства і юнацтва. Бо гэта і з'яўляецца для яго працягам таго жыцця, з'яўляецца гарантыяй яго веры ў лепшае і жадання жыць.

*... У глыбінях памяці, як дзіўны сон юначы,*
*Мінулага дзяцінства астравы,*
*Дзе птушкі, дрэвы, пах травы,*
*Напэўна, болей, чым жыццёвы вопыт значаць.*
*І не жыцця - дзяцінства пазбаўляе смерць*
*З наіўнасцю яго і цудамі адкрыццяў.*
*І толькі потым мы губляем цвердзь,*
*Калі з дзяцінствам рвуцца нашы ніці.*

- Чые сляды на золаце пяску? - пытаецца і адначасова ўсклікае паэт ужо ў іншым вершы, усклікае з радасцю за тое, што сляды яго босых ног па-ранейшаму існуюць, як існуюць дзяцінства і юнацтва - гэтыя дзве празрыстыя і бяздонныя крынічкі ягонага творчага натхнення, якое не-не дый матэрыялізуецца ў сонечных, глыбокадумных пейзажах родных далягляду і ў такіх жа чыстых, як крынічная вада, вершах.

Вось як успявае Анатоль Галушка раку свайго дзяцінства Шчару, што паважна нясе свае воды непадалёк ад яго родных Магіліцаў:

*... Бродам павольным прастую за Шчару,*
*Да блізкіх дубоў, што стаялі спакон,*
*А ў ціхім затоне купаюцца хмары,*
*І вецер згінае мне травы ў паклон.*
*Дубы-веліканы - мінулага сведкі,*
*Вы многае людзям маглі б расказаць.*
*Тут колісь сядзеў бестурботным падлеткам*
*І кошык з ракіты вучыўся вязаць.*

Зноў і зноў вяртаецца паэт да сваёй нязменнай і жывой для яго сяброўкі - ракі з такою шчырою назваю Шчара, гэтак выказваючы сваё жаданне ўспамянуць, а дакладней - акунуцца ў дзяцінства:

*Распранууцца ды з разгону*
*У Шчару скочыць з галавою -*
*Хай абдыме, здыме стому,*
*Дасць і моцы, і спакою.*

І быццам спяшаючыся запэўніць сваіх чытачоў, што такое жаданне яго не пакіне аніколі, хоць і з нейкім адценем суму, але ніяк не бязвер'я, Анатоль Галушка працягвае пра тое ж у новым сваім вершы "Памяць":

*Як сыйду у нябыт і калі назаўсёды пакіну*
*І гэту зямлю, і неба празрысты блакіт,*
*Каму я пакіну так любыя сэрцу мясціны,*
*Павольную Шчару ў засені гнуткіх ракіт?*

Ды не, верыць паэт, што любая яму рака застанецца не толькі наступным пакаленням яго аднавяскоўцаў, але і для яго таксама, бо што б ні здарылася, ён перакананы:

*Прыйду да ракі з маленства*
*знаёмай сцяжынай,*
*На мяккі дыван густое травы ўпаду.*
*Хто пакаштуе з тваіх берагоў ажыны?*
*Ці ўспомніш мяне, калі я аднойчы прыйду?*

Ці не гэта вось вера дапамагае Анатолю Галушку жыць? Жыць, здавалася б, у невыносных для звычайнага чалавека выпрабаваннях, але толькі не для яго. Інакш не было б такіх вось радкоў:

*Колькі раз я хацеў вярнуцца*
*У той чаромхавы, сонечны май,*
*Тваіх вуснаў жаданых кранууцца*
*І адчуць іх малінавы рай.*
*.................................*
*... Наталіць, запоўніць пустэчу*
*Асалодаю дотыкаў, слоў -*
*Я надзеяй жыву на сустрэчу,*
*А ў сэрцы не гасне любоў.*

І далей, яшчэ у адным вершы:

*Маркота, сум - іх прэч гані!*
*Не месца ім у сэрцы годным.*
*І ўжо не пешшу - на кані*
*Лячу - крылатым і свабодным.*

Так, трагічны выпадак адняў некалі ў Анатоля магчымасць, як гэта даецца кожнаму чалавеку ад нараджэння, хадзіць пешшу, але за яго заступіўся Гасподзь і даў яму крылы, каб лётаць у думках, нібы на дужым кані, і адчуваць сябе свабодным і ... шчаслівым. Так-так, шчаслівым нават у ягоным становішчы. Шчаслівым у сваіх маляўнічых палотнах, выставы якіх ужо праходзілі ў Івацэвічах, у Берасці і Менску. Анатоль - сябар сусветнай арганізацыі мастакоўінвалідаў, і, канечне ж, у сваіх вершах і ў сваёй прозе, якія ён хоць і пачаў пісаць параўнальна нядаўна, але якія ўжо прыязна сустрэтыя чытачамі як мясцовай раёнкі, так і такіх выданняў, як рэспубліканская "Звязда", штотыднёвік "ЛіМ", часопіс "Маладосць". Дый як можна інакш успрымаць такія радкі Анатоля Галушкі:

*Дай, Божа, быць шчаслівым тым, што маю,*
*Дай, Божа, аддаваць, а не прасіць.*
*Усмешкі слодыч, горыч слёз прымаю,*
*Дай моцы злосці ў сэрцы не насіць.*




Бог прыслухаўся да яго просьбаў, угледзеўшы у ім шмат таго чалавечнага, душэўнага і духоўнага, чаго не заўсёды хапае іншым, цалкам фізічна здаровым людзям і даў яму самае лепшае, што мог даць: талент, натхненне, веру і моц духу. Каб жыў, каб радаваўся жыццю і радаваў сваёй прысутнасцю людзей, каб штодня верыў, што так і будзе:

*Прачнуся сцішаным світанкам,*
*На вокнах - сонечны прамень.*
*Варожыць маці за сняданкам -*
*А значыць, будзе добры дзень.*

Замест пасляслоўя:

... Не спіцца. На ўсходзе ўжо прабіваюцца праз рэдкія хмаркі і імкнуцца зазірнуць у маё акно яшчэ нясмелыя сонечныя праменьчыкі, хоць самога сонца не бачна. Прачытаны апошні верш з кнігі Анатоля Галушкі "Сляды на пяску". Думак у галаве - цэлы рой. І ўсе яны скіраваны на ўсход ад маіх Івацэвічаў, туды, дзе месціцца спакон веку невялічкая беларуская вёска Магіліцы. Незвычайна хочацца праз адлегласць пераляцець да звычайнай вясковай хаты за старой канавай, гэтак цёпла ўспетай у аднайменным эсэ Анатолем Галушкам. Што парабляе ён зараз, на самым золку? Мо не спіць, як і я, ды мроіць новымі вершамі, новымі пейзажамі, якіх шмат назапасілі яму ягонае дзяцінства і юнацтва. Тымі ж слядамі на пяску, якія то з'яўляюцца, то знікаюць пасля густога летняга дожджыку, то зноў з'яўляюцца ягонымі слядамі, якім ужо не зніўнуць аніяк. Бо яны ў радасных для вока малюнках, у хвалюючых свядомасць вершах, а гэта ўжо сапраўдны след і ўжо не на пяску, а на зямлі нашай, святой і грэшнай адначасова. Гэта след жыцця Анатоля Галушкі, жыцця трагічна-светлага, жалобна-летуценнага, а ўвогуле - шчаслівага жыцця, нягледзячы ні на што.

Бо чалавек, які стварае ўзнёслыя вершы ды яшчэ на роднай беларускай мове, ажыўляе ў фарбах маляўнічыя родныя краявіды, каб жылі яны і радавалі не толькі сённяшні, але і будучых беларусаў, не можа быць нешчаслівым. Аніяк не можа.

... А на ўсходзе ўжо як мае быць выкацілася чырвона-цёплае сонечнае кола - прадвеснік новага дня і новага шчасця. А шчасця, як вядома, мала не бывае:

*Кожны сам сваю торыць дарогу,*
*Не кажыце, што лёс не змяніць.*
*Маем выбар. І дзякуй Богу*
*За вялікую радасць - жыць.*

Такія радкі не здольны напісаць слабы духам і пакрыўджаны лёсам чалавек. Анатоль Галушка не лічыць сябе такім. Ён па-ранейшаму нескароны. Таму і напісаў аднойчы:

*Чароўны мой край, зямля пад крыламі белымі,*
*Асвенчана сонцам*
*і крыжам святой Ефрасінні,*
*Ты ў сэрца глядзіш вачыма бяздонна-сінімі,*
*Бярэш у палон лясоў старадаўнімі спевамі.*

**Мікалай Рымач,**
*г. Івацэвічы.*

# ДУХ ПРОДКАЎ ЖЫВЕ Ў НАШЫХ СЭРЦАХ

Трокі і Ліда ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага. У XV стагоддзі яно было самай вялікай дзяржавай Еўропы. Два гэтыя гарады аб'ядноўвае той факт, што 2 з 5 мураваных замкаў былі пабудаваныя ў гэтых гарадах (Трокі і Ліда). Замкі былі рэканструяваны і прыцягваюць увагу турыстаў да сённяшняга дня. У Троцкім і Лідскім рэгіёнах ёсць шмат іншых месцаў, цікавых для наведвання, з багатай і прыгожай гісторыяй і некранутай прыродай, аднак, яны малавядомыя і маланаведвальныя, галоўным чынам па прычыне недахопу інфармацыі пра іх. Больш за тое, культура абодвух рэгіёнаў багатая сваёй унікальнасцю і цікавасцю, якая, нягледзячы на гэта, усё яшчэ недастаткова вядомая турыстам, шырокай грамадскасці.




Сёння Літва і Беларусь, асобныя краіны са сваімі межамі, якія перашкаджаюць зносінам і супрацоўніцтву паміж краінамі і іх насельніцтвам.

Маладое пакаленне не ведае суседніх гарадоў, якія калісьці належылі адной краіне, зямлі нашых продкаў. Таму трэба матываваць моладзь шукаць свае карані, развіваць традыцыйную культуру, захоўваць нацыянальную і грамадзянскую індывідуальнасць. У сувязі з гэтым, з 1 сакавіка 2013 года аддзелам культуры Лідскага райвыканкаму і Цэнтрам культуры Троцкага раёна вядзецца работа над праектам "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" (праграма трансгранічнага супрацоўніцтва Латвія-Літва-Беларусь у рамках Еўрапейскага інструмента добрасуседства і партнёрства, праект будзе працягвацца да 1 жніўня 2014 года). Гэтыя арганізацыі з двух рэгіёнаў аб'ядноўваюць для дасягнення агульнай мэты праекту: муніцыпалітэты, культурныя цэнтры і адукацыйныя ўстановы.

Асаблівая ўвага будзе нададзена адукацыі маладога пакалення. Важным з'яўляецца тое, што традыцыі і культура нашых продкаў будуць перадавацца з пакалення ў пакаленне на карысць будучых пакаленняў.

У выніку культурная спадчына Трокаў і Ліды будзе прадстаўлена для абедзвюх рэгіянальных супольнасцяў і іх гасцей. Падчас пяці двухдзённых фестываляў з кірмашамі рамёстваў (3 у Троках і 2 у Лідзе) у абодвух рэгіёнах ўдзельнікі пазнаёмяцца з культурай рэгіёнаў. Падчас дзесяці семінараў па старадаўніх рамёствах (1 месяц у Літве, 1 месяц у Беларусі) навучэнцы навучацца рамёствам двух рэгіёнаў. Падчас дзесяці экспедыцый па самых важных месцах двух рэгіёнаў будуць зробленыя відэазапісы ўсіх гістарычных месцаў, кулінарнай спадчыны і рамёстваў, а сабраныя відэа- і аудыёінфармацыя будзе апублікавана ў буклеце і на DVD.

Першы фальклорны фестываль па праекту "Дух продкаў жыве ў нашых сэрцах" ужо адбыўся ў Троках 8-9 чэрвеня 2013 года. Мерапрыемствы фестывалю праходзілі на розных гарадскіх пляцоўках: на цэнтральнай плошчы Трокаў, на пляцоўцы каля замка, у парку культуры і адпачынку. Гэта дало магчымасць апрабаваць нетыповыя спосабы данясення традыцыйнай культуры да гледача.

Яшчэ да пачатку фестывалю на плошчы з'явіўся амаль казачны "Горад майстроў". Чаго толькі не было на гэтай выставе народнай творчасці: незвычайнай прыгажосці вырабы з дрэва, гліны, саломы і іншых матэрыялаў, вышыўка, выцінанка, дэкаратыўнае пано і г.д. Амаль усё гэта - справа рук майстроў з Літвы, Латвіі, Польшчы і Беларусі (г. Ліда). Некаторыя майстры стваралі свае "цуды" проста на вачах гасцей "Горада майстроў".







У праграму фальклорнага фестывалю ўваходзілі ўсе традыцыйныя фестывальныя формы, такія як урачыстае шэсце ўсіх ўдзельнікаў свята, цырымонія афіцыяльнага адкрыцця фестывалю, выступленні творчых і фальклорных калектываў, выстава-кірмаш, і майстар-клас па народных промыслах і рамёствах.

У канцэртнай праграме выступіла каля пяці дзесяткаў артыстаў з Ліды - удзельнікі народных калектываў Лідскага раённага Палаца культуры: народны калектыў польскай песні "Красавяцы", народны калектыў песні і танца "Лідчанка"; удзельнікі народнага калектыву народнай музыкі "Гудскі гармонік" з Гудскага Цэнтра творчасці і вольнага часу; удзельнікі фальклорна-этнаграфічнага гурта Лідскага раённага цэнтра рамёстваў і традыцыйнай культуры.

Своеасаблівым працягам фестывалю стала вечарына, дзе адбылася сустрэча з удзельнікамі фальклорных калектываў Літвы, Латвіі і Беларусі, якія за развіццё і зберажэнне фальклорнага мастацтва атрымалі ад Троцкага аргкамітэту фестывалю спецыяльныя дыпломы і падарункі. А таксама ўсе ўдзельнікі вечарыны змаглі паспрабаваць паспяваць песні і патанчыць народныя танцы літоўцаў, беларусаў і латышоў.

Гэтае свята аб'яднала больш за тысячу чалавек - удзельнікаў і гледачоў свята з Літвы, Польшчы, Латвіі і Беларусі. Дарэчы, артысты з дзвюх названых апошнімі краін здзейснілі экскурсію па замку на востраве (XIV-XV ст.) і наведалі "Арыстакратычны Ужутракіс" (апошні яго ўладальнік - граф Я. Тышкевіч).

Так, атрымалася сапраўднае свята фальклорнага мастацтва, якое аб'яднала прадстаўнікоў некалькіх краін.

Гэты праект будзе стымуляваць зносіны і супрацоўніцтва паміж супольнасцямі двух раёнаў, прыцягваючы цікавасць да культуры і гісторыі рэгіёнаў. Ён дасць матывацыю падарожнічаць па дарогах продкаў, для знаёмства з іх мінулым. Першы крок - арганізаваныя разам праектныя мерапрыемствы з удзелам мастацкіх прадстаўнікоў двух рэгіёнаў. Найбольш важным з'яўляецца тое, што ў мастацкіх калектывах удзельнічаюць маладыя людзі, якія ведаюць аб гэтых гарадах, але не ведаюць пра тое, якія існавалі паміж імі сувязі, пра агульную гісторыю. Хоць сёння мы падзелены межамі краін, мы падобныя адзін ад аднаго, нам цікавыя нашы традыцыі і звычаі, мы ганарымся нашымі замкамі, мы цесна супрацоўнічаем з нашымі нацыянальнымі меншасцямі.

*Н. ВАЙЦЮКЕВІЧ*
*метадыст па этнаграфіі і фальклоры Лідскага раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці.*
*13.06.2013 г.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
**Адрас рэдакцыі:** 231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** naszaslowa@tut.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Марыя Баравік, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Юля Карчагіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/
http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 24.06.2013 г. у 10.00. Замова № 1233.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 4450 руб., 3 мес.- 13350 руб.
**Кошт у розніцу:** па дамоўленасці.